

З Марыяй Хадзінскай, выпускніцай адзінаццатай мінскай гімназіі, мы сустрэліся пасля кансультацыі па англійскай мове. Яна адна з тых васемнаццаці выпускнікоў гімназіі, што сёлета прэтэндуюць на залатыя медалі.

Дзякуючы сваёй настаўніцы Святлане Юр'еўне Асінавай, якая прывіла ёй і яе аднакласнікам любоў да замежнай мовы, Марыя збіраецца пасля заканчэння гімназіі паступаць у Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

Прадстаўляем вопыт

# Аснова цывілізаванага развіцця

***У шырокім усеабдымным сэнсе адукацыя — аснова развіцця грамадства, ключавое звяно, якое забяспечвае сувязь паміж культурай кожнага чалавека і развіццём чалавечай цывілізацыі ўвогуле. У вузкаасобасным практычным сэнсе яна — залог дабрабыту чалавека, яго ўдзелу ў паўнацэнным жыцці грамадства.***

Вось чаму суаднясенне правоў і бяспраўя дзіцяці ў галіне адукацыі ёсць суаднясенне (няхай і не прамое, а ўскоснае) яго свабоды ці насілля над яго асобай, над яго чалавечай годнасцю. Адсюль тое найвялікшае значэнне, якое надавалася ў гісторыі развіцця розных народаў ідэі ўсеагульнай адукацыі маладога пакалення, барацьбе за яе рэалізацыю. Адсюль тая прафесійна-асветніцкая значнасць разгляду гэтага пытання ў ВНУ педагагічнага профілю, перш за ўсё ў курсе гісторыі педагогікі.

Як ні ў якой іншай педагагічнай дысцыпліне ў гісторыі педагогікі лёгка прасочваецца сацыяльна-класавы падыход да ажыццяўлення рэальнага права грамадзян на адукацыю, бо кожная пададзеная ў гэтым курсе педагагічная тэорыя ці адукацыйна-выхаваўчая сістэма разглядаецца ва ўзаемасувязі з палітычным уладкаваннем дзяржавы, з характарам грамадства, з інтарэсамі тых, хто мае ўладу.

Пры выкладанні курса гісторыі педагогікі на псіхолага-педагагічным факультэце Брэсцкага універсітэта ставіцца мэта прасачыць праз прызму эпох і адукацыйна-выхаваўчых сістэм стаўленне той ці іншай дзяржавы, яе ўладавых колаў, асобных сацыяльных груп, грамадства ўвогуле да пытання рэалізацыі права дзяцей на адукацыю.

Пры вывучэнні адукацыйных сістэм рабаўладальніцкага і феадальнага грамадства як найбольш антаганістычных у гісторыі чалавечай цывілізацыі, а таксама ва ўмовах капіталізму ўвага студэнтаў звяртаецца на наступныя моманты: поўнае пазбаўленне цэлых класаў права на адукацыю; адсутнасць у яе сістэме адпаведнага тыпу школ для дзяцей рабоў, сялян (а ў Расіі для прыгонных сялян — аж да сярэдзіны XIX стагоддзя); значная абмежаванасць гэтага права пры капіталізме праз неабавязковасць наведвання школы дзецьмі (перапіс насельніцтва ў Расіі ў 1897 годзе сведчыў пра пісьменнасць так: сярод мужчын — 35,8 працэнта, сярод жанчын — 12,4 працэнта).

На канкрэтных фактах студэнты пераконваюцца ў непаўнацэннасці ўзроўню ведаў, якія даваліся дзецям непрывілеяваных саслоўяў, у тым, як недалёка адышла руская царкоўна-прыходская школа другой паловы XIX стагоддзя з яе двухгадовым тэрмінам навучання і рэлігійнай накіраванасцю ад прыходскай сярэдневяковай школы. А падчас вывучэння зместу адукацыі ў прыходскай школе, дзе хлопчыкаў навучалі пераважна малітвам, царкоўным спевам, радзей — пісьму, чытанню і лічэнню, студэнты прыходзяць да высновы, што ўся адукацыя ў Расіі была накіравана "на ўмацаванне ў народзе праваслаўнага вучэння, веры і маральнасці хрысціянскай".

На прыкладах больш позніх — капіталістычнай і сацыялістычнай — фармацый прасочваецца, як ва ўмовах тэхнакратызацыі вытворчасці, узрастання патрэбнасці дзяржавы ва ўсеагульнай пісьменнасці насельніцтва і якасным узроўні адукацыі, а таксама ва ўмовах дэмакратычных тэндэнцый у грамадстве, барацьбы прагрэсіўных сіл за найважнейшае з правоў кожнага чалавека — права на адукацыю — удасканальваюцца адукацыйныя сістэмы, ідзе пераемнасць паміж іх звеннямі, павялічваецца варыянтнасць тыпаў школ на ўсіх ступенях адукацыі, паступова ўводзіцца ўсеагульная пачатковая адукацыя (напрыклад, у такіх краінах як Аўстрыя, Прусія — яшчэ ў канцы XVIII стагоддзя, пазней — у Англіі, Італіі, Францыі).

У Беларусі, як і ў іншых рэспубліках былога Савецкага Саюза, праблема ўсеагульнай пачатковай адукацыі была вырашана толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі і ў даволі кароткі тэрмін. Асноўныя вехі яе ажыццяўлення: пачатак 30-х гадоў — усеагульная пачатковая адукацыя; канец 40-х — сямігадовая (1950 г. — васьмігадовая) і напрыканцы 70-х — усеагульная сярэдняя адукацыя.

Вялікую цікавасць у студэнтаў выклікае пытанне рэалізацыі права жанчын на адукацыю. Пры вывучэнні гісторыі развіцця адукацыйных сістэм даследуецца наступнае: магчымасць дзяўчынак у атрыманні раўнапраўнай з хлопчыкамі адукацыі; уплыў тых ці іншых асоб, якія адстойваюць гэта права; тыпы школ, што ствараліся для дзяўчынак; узровень і накірунак ведаў і інш.

Вывучэнне гэтых аспектаў праблемы паказвае, што на фоне шматвяковай прыніжанасці і нераўнапраўя жанчын (напрыклад, у рыцарскай сярэдневяковай сістэме выхавання) іх узровень адукаванасці быў вышэйшы за ўзровень адукаванасці мужчын. Пры вывучэнні пытання аб рэалізацыі права жанчын на адукацыю студэнты адзначаюць уклад такіх асветнікаў, як Ф.І. Янковіч, які паклаў у Расіі пачатак жаночай дзяржаўнай школе для непрывілеяваных слаёў насельніцтва, І.І. Бяцкой, які стварыў сярэднюю школу для дзяўчынак дваранскага саслоўя; адзначаюць барацьбу рэвалюцыянераў-дэмакратаў (М.Р.Чарнышэўскі, М.А.Дабралюбаў і інш.), сацыял-дэмакратаў (К.Цэткін, Р.Люксембург, Н.К.Крупская і інш.) за права жанчыны быць адукаванай нароўні з мужчынам.

Студэнты здзіўляюцца адкрытай (у Расіі — аж да Кастрычніцкай рэвалюцыі) і скрытай (як, напрыклад, у сучаснай цывілізаванай Францыі) дыскрымінацыі жанчыны ў галіне адукацыі. У першым выпадку няроўнасць выяўляецца праз цалкам раздзельнае навучанне дзяўчынак і хлопчыкаў, прычым у розных тыпах школ; у другім — праз нацыянальныя традыцыі, арыентацыю ў выхаванні іх больш на ролю жонкі, маці, хатняй гаспадыні, чым на прафесійнага спецыяліста ці грамадскага дзеяча.

Падкрэсліваючы актуальнасць вырашэння праблемы прадастаўлення жанчынам аднолькавых з мужчынамі правоў на атрыманне адукацыі, варта прывесці лічбы: у свеце пакуль яшчэ больш за 60 працэнтаў непісьменных дарослых складаюць жанчыны; больш за 60 працэнтаў дзяцей, якія не наведваюць школы, складаюць дзяўчынкі і г.д.

Не менш важны і нацыянальны аспект адукацыйнай палітыкі той ці іншай шматнацыянальнай дзяржавы, прыкладам якой з'яўлялася перш за ўсё Расійская імперыя, якая ўшчамляла праз сваю шавіністычную русіфікатарскую палітыку адукацыйныя правы іншых нацый, у тым ліку і нашу, беларускую, пазбаўляючы яе сваёй нацыянальнай школы, права навучання на роднай мове, а ў пэўныя перыяды і ўшчамляючы насельніцтва ў яго агульных правах. Прыкладам з'яўляецца прыняцце Статута Віленскага універсітэта ў 1807 годзе ці дзейнасць Асобнага камітэта па справах заходніх губерняў, калі пасля падаўлення беларуска-польскага паўстання 1830 — 1831 гг. да 1834 года колькасць казённых школ у Віленскай вучэбнай акрузе знізілася напалову. А менавіта ж у падрыхтоўцы людзей да таго, каб яны разумелі і шанавалі сваю культурную самабытнасць і паважалі яе ў іншых, заключаецца задача любой адукацыйнай сістэмы. Аднак пры гэтым не трэба адмаўляць, што ў сучасных умовах дзеля гуманізацыі і дэмакратызацыі грамадства адным са шляхоў ажыццяўлення раўнапраўнай адукацыі для маладых грамадзян Беларусі з'яўляецца ажыццяўленне ідэі павароту краіны да заходнееўрапейскіх сістэм з іх багатымі гуманістычнымі і дэмакратычнымі традыцыямі. Гэта перанясенне ў нашу нацыянальную сістэму навучання пэўных тыпаў школ, змястоўна-тэхналагічных асноў навучання, дыягнастычных методык і г.д.

Такім чынам, пры вывучэнні пытанняў станаўлення школы, развіцця тэарэтычных асноў працэсу навучання, у прыватнасці, пачынаючы з педагагічнай сістэмы Я.А.Коменскага з яе гуманістычнай, дэмакратычнай накіраванасцю (данесці праз школу на роднай мове, г.зн. праз пачатковую ступень адукацыі, усім дзецям незалежна ад іх расавай і нацыянальнай прыналежнасці ўсе здабытыя цывілізацыяй веды) і заканчваючы сённяшнім тэарэтычным абгрунтаваннем сусветнай (планетарнай) мэты адукацыі ("ва ўмовах інтэлектуальнай і маральнай салідарнасці чалавецтва" садзейнічаць развіццю актыўнага пачуцця цярпімасці і ўзаемаразумення паміж краінамі і народамі) мы разглядаем гісторыю сацыяльнага, палавога і нацыянальнага аспектаў барацьбы народаў за іх права на сапраўдную адукацыю, бо права — гэта ёсць залог многіх іншых чалавечых правоў. А факт існавання на сённяшні момант у свеце больш як 9 млн. непісьменных дарослых і больш чым 100 млн. дзяцей, якія не наведваюць школу, гаворыць аб тым, што барацьба за рэалізацыю права чалавека на адукацыю будзе і павінна працягвацца.

**Галіна СЕГЯНЮК,**
**дацэнт кафедры педагогікі пачатковага навучання і сацыяльнай педагогікі Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта.**

*За мяжой*

# Навука жыць

***Нестандартны прысуд вынес іспанскі суддзя Эміліо Калатаюд 15-гадоваму дробнаму зладзюшку. Калі суддзя высветліў, што абвінавачваемы зусім непісьменны, то ён... абавязаў яго навучыцца чытаць і пісаць. Мала таго, пасля завяршэння навучання сам прыняў у яго экзамен і канстатаваў, што судовы прысуд прыведзены ў выкананне.***

Малалетні правапарушальнік папаўся ў правінцыі Гранада пры абрабаванні харчовага склада ў кампаніі двух мужчын з цёмным мінулым. Пасля азнаямлення са справай суддзя Калатаюд абвясціў, што нельга судзіць чалавека, які не атрымаў нават мінімальнай адукацыі. Грамадства, на яго думку, не мае права прад'яўляць крымінальнае абвінавачанне таму, хто з'яўляецца ахвярай самога грамадства. Няўдачлівы малалетні злачынца сумленна навучыўся не толькі пісаць і чытаць, але і лічыць. Адначасова ён дзякуючы садзейнічанню суддзі атрымаў прафесію тынкоўшчыка.

Суддзі Эміліо Калатаюду, які займаецца справамі непаўналетніх, уласцівы нетрадыцыйны падыход да практычнай юрыспрудэнцыі. Некалькі гадоў таму ён адправіў пад дамашні арышт 20 бацькоў, чые дзеці сістэматычна прагульвалі ўрокі. Суд вышэйшай інстанцыі адмяніў гэтае рашэнне, аднак перапалоханыя бацькі прынялі меры — і з таго часу іх дзеці сталі прыстойнымі вучнямі. Вядомы ў правінцыі Гранада і выпадак, калі суддзя Калатаюд прыгаварыў юнака, які кіраваў матацыклам у нецвярозым стане, да рэгулярнага наведвання аддзялення мясцовай бальніцы, дзе лечаць людзей, паралізаваных у выніку дарожна-транспартных здарэнняў...

**Падрыхтаваў Ігар КАНДРАЛЬ.**

# Зноў экзамены

Вытрымаўшы сапраўды сур'ёзнае напружанне разумовых і фізічных сіл, якое папярэднічала адной з важнейшых у жыцці маладога карэйца з'яў — здачы экзаменаў у ВНУ, былыя абітурыенты, стаўшы студэнтамі, расслабляюцца і дазваляюць сабе асабліва не напружвацца ў нудным працэсе навучання, за якім знаходзіцца запаветны дыплом. З вынікаў апытання, праведзенага экспертамі НДІ адукацыі Карэйскага універсітэта выяўлена, што больш за палову студэнтаў паўднёвакарэйскіх ВНУ прысвячаюць самастойным заняткам пасля лекцый менш як гадзіну ў дзень і прыкладна 40 працэнтаў з іх праяўляюць поўную абыякавасць да вучэбнага працэсу.

Відаць, што перажываемы краінай крызіс школьнай адукацыі, калі ў класах пачатковай і сярэдняй школы, як сцвярджаюць паўднёвакарэйскія сродкі масавай інфармацыі, пануюць непавага да настаўніка, прагулы і школьнае насілле замест прывычнага паслушэнства, распаўсюдзіўся цяпер і на універсітэт.

Універсітэты Паўднёвай Карэі, як лічаць дасведчаныя ў праблемах нацыянальнай адукацыі эксперты, "павінны выконваць вядучую ролю ў забеспячэнні нацыі высокакласнымі спецыялістамі".

Аднак для выпраўлення сітуацыі, як адзначаюць цэнтральныя СМІ, неабходна правесці "сур'ёзныя змены ў сістэме агульнай адукацыі ў краіне".

Буйным скандалам абярнуліся ў Бангладэш пачатыя выпускныя экзамены ў каледжах.

У першы дзень ад экзаменаў былі адхілены за розны падман — ад выкарыстання шпаргалак да подкупу выкладчыкаў — больш як 3,5 тысячы вучняў. Як паведамілі СМІ, за дзень колькасць выгнаных з каледжаў за такія парушэнні ў цэлым па краіне павялічылася да 16 тысяч. У некаторых навучальных установах сталіцы і шэрагу іншых гарадоў, гаворыцца ў паведамленні, пазбаўленыя права атрымаць дыпломы выказваюць пратэст масавымі маніфестацыямі, якія пераходзяць у беспарадак. Дзе-нідзе прыйшлося выклікаць паліцыю, якая выкарыстала слезатачывы газ і дубінкі. Экзаменацыйная сесія набірае летнія гарачыя абароты.

**Падрыхтаваў Ігар КАНДРАЛЬ.**

Думка чытача

# Гэта цяжкае права выбару...

Многа змен адбылося ў школьным жыцці за апошнія гады. У бацькоў з'явілася права выбіраць школу для свайго дзіцяці. А выбіраць настаўніка? Юрыдычна гэта нідзе не афармлена. Чаму я пішу пра гэта?

Ды таму, што не раз чула просьбы сваіх знаёмых растлумачыць ім, ці маюць яны права памяняць настаўніка.

Папраўдзе кажучы, у свой час, мне б таксама хацелася іншы раз памяняць некаторых сваіх вучняў ці іх бацькоў, як, мабыць, і ім мяне.

Усім нам хочацца мець аптымальны варыянт, але, на жаль...

Адзін і той жа настаўнік можа быць добрым для аднаго вучня і дрэнным для другога.

Жорсткі, вельмі патрабавальны педагог, не ўмее ці не жадае пахваліць дзіця, не падыходзіць для няўпэўненага ў сабе, "затузанага" бацькамі дзіцяці. А мяккі, далікатны настаўнік не справіцца з разбэшчаным сямейным "царком".

Бацькам хацелася б знайсці ў настаўніку спалучэнне разумнай патрабавальнасці і прафесіяналізму з душэўнай мяккасцю і павагай да годнасці дзіцяці.

Адпрацаваўшы 38 гадоў у школе, сцвярджаю, што такія настаўнікі былі і ёсць. І іх шмат. Агульнавядома, што ўзровень нашай адукацыі дастаткова высокі ў параўнанні з многімі краінамі. А вось па ўзроні побытавай культуры мы вельмі адстаём.

А якая культура ўзаемаадносін у сем'ях? Можа, прычыны многіх канфліктаў менавіта ў сем'ях, у тым, якім дзіця пачынае вучобу.

Я ведаю сям'ю, дзе другакласнік ні разу не пачуў ад маці і бабулі слоў павагі. Толькі: "балбес, дэбіл, разява" і падобнае гэтаму. Да першага класа гэты хлопчык не ведаў ні ў чым абмежаванняў, рабіў што хацеў, мог пакрыўдзіць бабулю, перавярнуць талерку з супам і г.д. А першага верасня раптам выявілася, што трэба ціха сядзець, слухаць, стрымліваць свой узрыўны нораў ды яшчэ нешта пісаць, і пісаць вельмі акуратна. Больш за тое: ён прывык, што ён "самы-самы", а аднакласнікі зусім так не думаюць.

Вось і ідзе дзіця ў школу са слязьмі. Але гэта злыя слёзы. Школу ён ненавідзіць. З любімчыка сям'і ён ператварыўся дома ў "балбеса і дэбіла", а ў школе трэба яшчэ падпарадкоўвацца настаўніку, больш моцным аднакласнікам, ды і не самыя лепшыя адзнакі б'юць па самалюбстве. А хто вінаваты? Настаўнік?

У гэтай сітуацыі трэба ў корані мяняць усю атмасферу ў сям'і, павольна і асцярожна мяняць адносіны да дзіцяці і яго адносіны да школы.

Супрацьлеглы прыклад. Хлопчык вырас у спакойнай, добразычлівай сямейнай абстаноўцы. Робіць усё акуратна, грунтоўна, абдумана, але вельмі марудна. А настаўніца трапіла вельмі эмацыянальная, гаворыць хутка, гучна. Любіць знешнія эфекты, яе адкрытыя ўрокі заўсёды падабаюцца калегам. І актыўныя, кемлівыя дзеці добра адчуваюць сябе з ёю. А вось для маруднага Ванечкі яна пастаянны раздражняльнік, ды і ён для яе таксама. Вось тут выйсце адно: памяняць клас, перайсці да іншага настаўніка.

Але прыйдзе Ваня ў пяты клас, і ў яго будзе шмат розных настаўнікаў, усіх не памяняеш. Я магу прывесці дзесяткі два падобных прыкладаў, але навошта...

Які вывад? Мне здаецца, што гэта задача не мае дакладнага адказу.

Так, у некаторых выпадках трэба мяняць настаўніка. Лепш было б, калі б школьны псіхолаг вызначаў загадзя, да каго з настаўнікаў ісці таму ці іншаму дзіцяці. Цяпер дзеці праходзяць інтэлектуальнае тэсціраванне. А можа лепш праводзіць тэсціраванне на сумяшчальнасць з настаўнікам?

Калі б у настаўніка ў класе было менш вучняў, ён хутчэй бы вывучыў і адчуў кожнага. Гэтыя "калі б" можна працягваць бясконца. Але рэаліі жыцця такія, што трэба прыстасоўвацца да таго, што маем.

Бацькам не грэх памятаць, што іх дзіця павінна не толькі атрымаць адукацыю, але і навучыцца жыць у грамадстве. А значыць, яго трэба вучыць улічваць пажаданні іншых людзей, паважаць іх думку, разумець такую простую рэч, што навакольныя не лічаць цябе "цэнтрам Сусвету". Разам з тым у дзіцяці трэба выхоўваць пачуццё ўласнай годнасці, разумную ўпэўненасць і веру ва ўласныя сілы і шмат чаго іншага.

Але адно непарушнае правіла павінна быць у сям'і школьніка: ніколі не абмяркоўваць недахопы настаўніка пры сваім дзіцяці. Паверце: лепшымі не стануць ні настаўнік, ні дзіця, а клопатаў павялічыцца.

**Аляксандра САБАЛЕЎСКАЯ,**
**ветэран педагагічнай працы.**




# "З надзеяй — у будучыню"

Выстава-кірмаш з такой назвай адбылася ў Нацыянальным цэнтры творчасці дзяцей і моладзі. Арганізаваная дзіцячым фондам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (ЮНІСЭФ) у Рэспубліцы Беларусь і Міністэрствам адукацыі Беларусі, яна прайшла ў межах сусветнага руху ў інтарэсах дзяцей і кампаніі "Скажам дзецям "Так!"".

Прадстаўленыя на ёй вырабы зроблены рукамі дзяўчынак з петрыкаўскага спецвучылішча № 1 і хлопчыкаў Бабруйскай калоніі — дзецьмі, якія па тых ці іншых абставінах апынуліся ў супярэчнасці з законам і зараз пазбаўлены нармальных умоў жыцця і ўзаемін.

Кожны з прысутных змог набыць экспанат, які яму спадабаўся, а таксама зрабіць дабрачынны ўзнос. Усе сабраныя падчас выставы сродкі пойдуць на дабрачынныя мэты, а калі дакладней — на патрэбы дзяцей, якія прадставілі на гэты кірмаш свае вырабы.

На адкрыцці прысутнічаў прадстаўнік дзіцячага фонду ЮНІСЭФ у Беларусі Ніл Бунэ.

**Юрый БОНДАРАЎ.**

НА ЗДЫМКАХ: падчас правядзення выставы-кірмашу.

**Фота аўтара.**








